# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 5(734) ● 11 лютага 1994 г. ● Цана 25 руб.



Валянціна ЛЯОНЧЫКАВА:

## «МЫ БУДЗЕМ РАДЫ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З ВАМІ!»

**У сакавіку 1992 года па ініцыятыве і пры садзейнічанні Фонда фундаментальных даследаванняў рэспублікі і Інстытута эканомікі АНБ было створана таварыства з абмежаванай адказнасцю «Навуковец». Мэта яго стварэння — садзейнічанне развіццю фундаментальных і прыкладных даследаванняў, навукова-тэхнічнага, вытворчага, эканамічнага і інтэлектуальнага патэнцыялу нашай Беларусі.**

Вось у адпаведнасці з гэтай мэтай і ажыццяўляе яно сваю дзейнасць, накіраваную на ўмацаванне сувязей навукі з вытворчасцю, садзейнічае паскарэнню ўкаранення навукова-тэхнічных распрацовак (праектаў) у практыку. Акрамя гэтага, прадпрыемствам аказваюцца інфармацыйныя, кансультацыйныя, маркетынгавыя паслугі, праводзяцца семінары, канферэнцыі і розныя іншыя мерапрыемствы, якія накіраваны на пашырэнне дзелавых кантактаў паміж вучонымі, прадпрымальнікамі, практыкамі і грамадскасцю. «Навукоўцам», напрыклад, была праведзена міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Праблемы рэгулявання развіцця нацыянальных эканомік». Сумесна з Міжнароднай сацыялагічнай асацыяцыяй, Міжнародным інстытутам менеджменту, Інстытутам сацыялогіі АНБ — навуковая канферэнцыя «Сацыяльныя і ўпраўленчыя аспекты рэструктуравання эканомікі». У рамках завершаных Фондам фундаментальных даследаванняў праектаў па праблеме выжывання навукі праведзены рэспубліканскі семінар «Шляхі выжывання фундаментальнай навукі» і г.д.

Але на гэтым дзейнасць «Навукоўца» не заканчваецца. Прадпрыемства аказвае практычную дапамогу прадпрыемствам і арганізацыям ва ўкараненні эфектыўных эканамічных метадаў арганізацыі кіравання вытворчасцю, рэалізуе праекты ад стадыі вывучэння магчымасці іх ажыццяўлення, прыцягнення і ўкладання інвестыцый, да стадыі наладжвання вытворчай і навуковай дзейнасці. Ужо заключаны дагаворы аб творчым супрацоўніцтве з асацыяцыямі, прадпрыемствамі і арганізацыямі, якія прадугледжваюць развіццё адносін у гэтым накірунку.

Не менш важнае значэнне прыдаем мы і маркетынгу, разглядаем яго як адно з асноўных пытанняў гаспадарчага кіравання. Зразумела, што гэта сістэма не з'яўляецца прынцыпова новай для нашай эканомікі. Многія яго элементы прымяняліся ў практыцы экспартнай дзейнасці прадпрыемстваў і арганізацый.

Разам з тым, у дзейнасці навукова-тэхнічных арганізацый маркетынгавыя даследаванні развіваюцца марудна. Вядома ж, выкананне ўсяго аб'ёма работ па маркетынгу патрабуе стварэння ў навукова-вытворчых і навукова-тэхнічных арганізацыях маркетынгавых падраздзяленняў, а на рэгіянальным узроўні — цэнтраў маркетынга, якія забяспечваюць кансультацыйную дапамогу, падрыхтоўку спецыялістаў па маркетынгу і г.д. «Навуковец» жа выступіў адным з ініцыятараў і арганізатараў стварэння Міжнароднага Клуба маркетынга — грамадскай арганізацыі, якая аб'ядноўвае спецыялістаў — маркетолагаў, выкладчыкаў, вучоных, менеджэраў прадпрыемстваў, маладых людзей, якіх цікавяць праблемы менеджменту і маркетынга. Ідэя стварэння такога клуба — садзейнічанне развіццю ў рэспубліцы прынцыпаў і метадалогіі маркетынга, распаўсюджванне новых ведаў і «ноу-хау» у галіне менеджменту, арганізацыя правядзення сустрэч і дыскусій вядучых вучоных, замежных спецыялістаў-маркетолагаў з мэтай перадачы вопыту і ведаў членам клуба, аказанне дапамогі ў прафесійным росце маладым спецыялістам-маркетолагам, садзейнічанне ўкладанню іншаземных інвестыцый у прыярытэтныя галіны навукова-тэхнічнага прагрэсу Беларусі.

«Навукоўцам» і клубам, напрыклад, быў праведзены чатырохдзённы практычны семінар па тэме «Міжнародны маркетынг, таварная стратэгія, кіраванне крызісам». Праводзіў яго вядомы нямецкі маркетолаг Ф. К. Бефнер. Праграма работы клуба прадугледжвае правядзенне сустрэч, дыскусій, розных мерапрыемстваў, накіраваных на ўмацаванне і пашырэнне дзелавых кантактаў паміж яго членамі і грамадскасцю.

Адной з функцый «Навукоўца» з'яўляецца навуковае абслугоўванне і суправаджэнне праектаў, якія выконваюцца фондам, давядзенне неабходнай інфармацыі аб выніках выконваемых праектаў да канкрэтнага спажыўца навуковай прадукцыі, замежнага інвестара. Намі рыхтуецца да выдання інфармацыйны бюлетэнь, які ўключае ў сябе пералік выконваемых фондам навуковых праектаў з мэтай распаўсюджвання і давядзення гэтай інфармацыі да грамадскасці. Наша будучыня — яшчэ большае пашырэнне сувязей са спажыўцамі навуковай прадукцыі, наладжванне дзелавых кантактаў у розных рэгіёнах, прадугледжваючы самыя розныя формы супрацоўніцтва. Нам здаецца, што самымі зацікаўленымі ў нашых паслугах і сумесным супрацоўніцтве павінны быць работнікі Акадэміі навук, універсітэтаў, інстытутаў, прамысловых прадпрыемстваў, прадпрымальнікі. Мы будзем рады супрацоўнічаць з вамі!

**На здымку: дырэктар таварыства з абмежаванай адказнасцю «Навуковец», кандыдат эканамічных навук, супрацоўнік Інстытута эканомікі АНБ В. С. ЛЯОНЧЫКАВА.**

**Фота М. БУДЧАНІНА.**

## НЕ ГОРШ ЗА ЛЮБЫ ІНШЫ

*Дагэтуль у Беларусі вытворчай базы для выпуску алею практычна не было. Ды і навошта? Найбольш пашыраныя віды алею, якімі карысталіся ў рэспубліцы,— сланечнікавы, кукурузны — завозіліся з паўднёвых рэспублік былога Саюза. Адтуль, дзе культуры, што служаць сыравінай для алею, традыцыйна і поўнасцю выспяваюць. Тым больш не было патрэбы ў прадпрыемствах для перапрацоўкі на алей такіх экзатычных раслін, як масліны, арахіс і г.д.*

*Сёння эканамічная сітуацыя ў нашай суверэннай дзяржаве змянілася. Дастаўка прадуктаў з далёкага і блізкага замежжа абыходзіцца нятанна. Рэзка ўзрос і кошт сыравіны. Значыць, трэба шукаць іншыя крыніцы забеспячэння насельніцтва харчовымі таварамі, тым жа алеем, напрыклад.*

*У канцэрне Белхарчпрам прыйшлі да думкі арганізаваць масавую вытворчасць рапсавага алею. Рапс — алейная расліна, якая шырока культывіруецца на нашых палях. Але алей з яе атрымліваецца чорнага колеру, патрабуе ачысткі.*

*Раней для адбельвання прымяняліся спецыяльныя гліны-адсарбенты, якія таксама завозіліся з-за межаў рэспублікі. Зноў загвоздка! І тады харчавікі-практыкі звярнуліся да навукоўцаў-хімікаў. А канкрэтна — у Інстытут агульнай і неарганічнай хіміі. Група лабараторыі рэакцыйна-актыўных валокнаў і плёнак, у прыватнасці старшыя навуковыя супрацоўнікі, кандыдаты хімічных навук Ніна Уладзіміраўна Гулько і Ілля Пятровіч Люблінер разам з калектывам НВА «Хартэх» вырашылі задачу.*

*Пры даследаваннях высветлілася, што добрым ачышчальнікам рапсавага алею можа служыць вугляродна-валакністы сарбент — бусафіт, які, да таго ж, выпускаецца ў прамысловых маштабах у нашай краіне: у Светлагорску, на ВА «Хімвалакно» па тэхналогіі ІАНХ.*

*Летась былі адпрацаваны і тэхнічныя ўмовы па асвятленню алею.*

*Думаецца, цяпер у нас будзе свой, айчынны алей. І не горшы за любы іншы.*

* * *

*Напрыканцы гэтай падборкі аўтар мусіць паведаміць, што гэты кароткі агляд па лабараторыях дапамаглі зрабіць вучоны сакратар інстытута І. Б. Дубніцкая, загадчык лабараторыі інстытута В. У. Таўгень, навуковыя супрацоўнікі Т. Г. Лазарава і І. П. Люблінер.*

### ВУЧОНЫЯ — ПРАКТЫЦЫ

## ДЛЯ НАДЗЕЙНАЙ АХОВЫ

Над выкананнем цікавага заказу разам працуюць даследчыкі Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі і Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі. Яны распрацоўваюць сродкі аховы дакументаў і каштоўных папер ад фальсіфікацыі. У ліку такіх сродкаў спецыяльныя фарбы, валокны і віды паперы.

У Інстытуце агульнай і неарганічнай хіміі гэтая работа даручана лабараторыі рэакцыйна-актыўных валокнаў і плёнак. За параўнальна невялікі час навукоўцы абедзвюх установаў дабіліся прыкметных вынікаў. Зрабіўшы ўпор на магнітныя спосабы аховы, распрацоўшчыкі атрымалі серыю спецыяльных фарбаў, якія, дарэчы, апрабаваны ўжо на практыцы. Імі карыстаюцца пры нанясенні элементаў малюнка з магнітнай аховай.

Цяпер надышоў наступны этап работы, да якой падключыўся яшчэ адзін інстытут: прыкладной фізікі. Вядзецца сумесная распрацоўка дэтэктараў, закліканых вызначаць сапраўднасць магнітнай фарбы.

Значны ўклад у арганізацыю даследаванняў унеслі член-карэспандэнт АНБ Генадзь Антонавіч Талкачоў і навуковы супрацоўнік Таццяна Генадзьеўна Лазарава.

Вытворчасць спецыяльных фарбаў будзе наладжана разам з Дзяржзнакам.

### ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

## Альбо сёння за дзевяць, альбо заўтра за...

**Працяглая работа над «Энцыклапедыяй гісторыі Беларусі» прынесла, нарэшце, свае першыя вынікі.**

Выйшаў у свет першы том гэтага фундаментальнага выдання, пра надзённую патрэбнасць якога залішне і казаць. Праўда, у кнігарнях «Энцыклапедыя...» яшчэ не з'явілася. Але супрацоўнікі Інстытута гісторыі АНБ і некаторых іншых інстытутаў мелі магчымасць яго атрымаць, дзякуючы непасрэдным кантактам з выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя». І каштавала для іх «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» усяго 9 тысяч рублёў, што для падобнага выдання нямнога. Прынамсі заўтра, калі першы том з'явіцца ў кнігарнях, цана на яго ўзрасце не менш чым у 1.5—2 разы.

А. БІЦАРУК.

### У НАШЫХ КАЛЕГ

## СІБІРСКІ ДАЙДЖЭСТ

**Прэзідыумам Сібірскага аддзялення Расійскай Акадэміі навук створаны па-за бюджэтны фонд СА РАН, асноўнымі задачамі якога з'яўляюцца: аб'яднанне фінансавых сродкаў арганізацый і фізічных асоб з мэтай сварэння ўмоў для рэалізацыі назапасенага навукова-тэхнічнага патэнцыялу інстытутаў аддзялення, фінансаванне навукова-тэхнічных праектаў па распрацоўках інстытута, якія маюць вялікае народнагаспадарчае значэнне, у тым ліку праектаў з доляй рызыкі.**

**З 1 па 4 лютага 1994 года ў Іркуцку прайшла міжрэгіянальная выстава-кірмаш «Сібнавука — Вытворчасць — Прадпрымальніцтва». Арганізатарамі выступілі адміністрацыя Іркуцкай вобласці, Іркуцкі навуковы цэнтр СА РАН. У экспазіцыі выставы-кірмаша былі прадстаўлены сучасныя навукова-тэхнічныя распрацоўкі, новыя матэрыялы, арыгінальныя тэхналогіі перапрацоўкі сыравіны, новыя прыборы для патрэб экалогіі і медыцыны і інш.**

**(Па старонках газеты «Навука ў Сібіры»)**

# Ад камп'ютэрнай графікі да візуальнай філасофіі

Вобразу ў навуцы традыцыйна адводзіцца выключна другаразрадная роля — як недасканалай, павярхоўнай форме ведаў. Аднак менавіта вобраз бывае зыходным першаштуршком навуковага адкрыцця. Дастаткова ўспомніць пра вобраз падаючага яблыка, што, як лічыцца, падказаў Ньютану фармулёўку закона сусветнага прыцягнення. Ці пра тое, як назіранне за дзвюма малпамі, што счапіліся адна з адной, прывяло хіміка Кекуле да думкі аб цыклічнай будове малекулы бензолу.

У завершаных працах аб вобразных асацыяцыях, як правіла, нават упамінанняў не застаецца. З-за гэтага пашырана меркаванне, што навуковыя тэорыі ствараюцца строга паслядоўна, з дапамогай лагічных пабудаванняў.

Аднак ёсць і іншы погляд на ход навуковага пазнання. Яго адстойвае Т. Кун. Ён сцвярджае, што апрача лагічных метадаў, для пазнання значныя таксама так званыя парадыгмы. Гэта ў многім суб'ектыўныя мысліцельныя структуры, якія адухатвараюць навуковыя тэорыі няяўна прысутнічаюць у іх.

Падаючы яблык, счэпленыя малпы — гэта вобразы, выпадкова ўбачаныя ў свеце. Верагодна эўрыстычныя вобразы можна «канструяваць» мэтанакіравана. Не абмяжоўвацца выпадковай аналогіяй, а штучна ствараць эўрыстычны вобраз, імкнучыся да глыбіні яго сэнсавага зместу.

Сучасная камп'ютэрная графіка дазваляе «матэрыялізаваць» і «ажыццяўляць» практычныя вобразы, зусім верагодна ўзнаўляць складаныя трохмерныя сцэны, паверхні рознай фактуры, асвятляць і аніміраваць групы з многіх складаных прасторавых аб'ектаў. Калі назіраеш лепшыя суперкамп'ютэрныя анімацыйныя кампазіцыі, міжволі ўзнікае думка аб «арэчаўленай свядомасці», «матэрыялізаванай фантазіі».

Ідэя выкарыстання камп'ютэрнай графікі, як магутнага сродка ўзмацнення працэса пазнання, літаральна вісіць у паветры. Яна нават пакладзена ў аснову сцэнарыя галівудскага фільма «Касільшчык лужкоў», у якім з дапамогай навучання па тэхналогіі віртуальнай рэальнасці ўдалося ператварыць разумова адсталага газонакасільшчыка ва ўсемагутнага звышінтэлектуала.

Вядомы амерыканскі спецыяліст па навуковай візуалізацыі Дона Кокс выказвае ідэю аб стварэнні так званых рэнесансных груп разнапрофільных спецыялістаў для вырашэння праблем навуковай візуалізацыі. А матэматык А. Зенкін прапанаваў нават асобы тэрмін — «кагнітыўная камп'ютэрная графіка» для вызначэння пэўнай вобласці ў тэарэтыкалікавых даследаваннях.

Узнікае пытанне: ці не «урываецца» навука ў сферу мастацтва? Працэс іх узаемнага збліжэння ў XX стагоддзі ўжо прыкметны. Яўную «анавучанасць» можна ўбачыць, напрыклад, у супрэматызме К. Малевіча, у прадстаўнікоў іншых школ авангарднага мастацтва. Асобай увагі заслугоўвае у гэтай сувязі творчасць выдатнага мастака-графіка М. Эшэра. Яго натхнялі новыя навуковыя тэорыі і звязаныя з імі парадоксы.

Навука, у адрозненне ад мастацтва, мае мэтай пошук ісціны. Зварот навукі да вобразу мае іншую матывіроўку, чым у мастацтве. Таму збліжэнне, дзесьці нават узаемапранікненне навукі і мастацтва наўрад ці прынясе шкоду. Хутчэй гэта будзе спрыяць ўзаемаабагачэнню абедзвюх сфер інтэлектуальнай дзейнасці чалавека.

Парадыгмальныя вобразы, якія стымулююць разуменне (так званы інсайт), — гэта асаблівая форма прадведаў, што ўказвае на іх роднасць з філасофіяй і блізкасць да яе. Функцыі, што яны выконваюць, вельмі блізкія. І парадыгмальныя вобразы, і філасофскія прынцыпы параджаюць новыя веды, з'яўляючыся быццам бы зародкавымі цэнтрамі іх крышталізацыі.

Таму можна паставіць задачу абагачэння метадалогіі сучаснай філасофіі за кошт авалодання, акрамя моўнай, яшчэ і вобразнай кампанентай мыслення, дзе велізарныя магчымасці адкрывае камп'ютэрная графіка. Усё гэта дасць магчымасць не толькі агучыць, але і візуалізаваць думку.

У класічнай навуковай карціне свету час выконваў ролю толькі ўмяшчальні падзей, якая ніколі не ўмешваецца непасрэдна ў іх прычынна-следственныя адносіны. У класічнай навуцы часу быццам бы і няма, паколькі яна нацэлена на пазнанне заканамернага, інварыянтнага, незалежнага ад часу. У гэтай сувязі вядомы нобелеўскі лаўрэат І. Прыгожын выказаў нават ідэю аб «пераадкрыцці часу» у сучаснай фізіцы. Кожны раз, калі мы рэальна ці на экране дысплея паўтараем дослед з шарам і конусам, шар падае па-рознаму. Яго рух залежыць ад усяго стану сусвету ў момант дакранання. Ён кожны раз актыўна «умешваецца» у ход падзей, «выбіраючы» з бясконцага мноства магчымых варыянтаў адзін канчатковы. Назіраючы за шарам, што падае на конус, можна адчуць подых матэрыяльнага хаатызуючага ветру сусветнага часу.

Вобразнае мадэляванне на ўсё больш магутнай камп'ютэрнай аснове дасць магчымасць філасофіі выйсці ў яскрава іншае вымярэнне, прарвацца да архітыпічных, «дамоўных» узроўняў мыслення, нават да бессвядомага, вобразнага спосабу выказвання навуковых ідэй.

Андрэй КАЛЕСНІКАЎ,
Інстытут філасофіі і права АНБ.

ПРЭЗІДЭНТ АНБ АКАДЭМІК ЛЕАНІД СУШЧЭНЯ:

# «У рэспубліцы ідзе сур'ёзная работа»

## (З ДАКЛАДА ПАДЧАС ПЕРШАГА СВЯТКАВАННЯ ДНЯ БЕЛАРУСКАЙ НАВУКІ)

Прагрэс нашага грамадства немагчымы без усямернай актывізацыі яго інтэлектуальнага патэнцыялу, важнейшай часткай якога з'яўляецца навука. Сёння час патрабуе ад нас глыбокага асэнсавання неабходнасці захавання навуковага патэнцыялу рэспублікі і пашырэння яго ўплыву на ўзровень і характар развіцця эканомікі і культуры Беларусі.

Разумеючы значнасць навукі для забеспячэння прагрэсу ва ўсіх сферах дзейнасці нашай маладой дзяржавы, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь упершыню ўстанавіў *Дзень беларускай навукі*, які з гэтага часу будзе адзначацца ў апошнюю нядзелю студзеня. Гэта дата звязана з пачаткам дзейнасці 30 студзеня 1922 г. першага ў гісторыі рэспублікі комплекснага навукова-даследчага цэнтра — Інстытута беларускай культуры.

Важнай вяхой ў развіцці айчыннай навукі стала стварэнне па рашэнню ўрада БССР нацыянальнай Акадэміі навук. Яе ўрачыстае адкрыццё адбылося 1-га студзеня 1929 г. З самага пачатку дзейнасці Беларускай Акадэміі навук яе значэнне ў грамадска-палітычным, сацыяльна-эканамічным і нацыянальна-культурным жыцці рэспублікі пастаянна ўзрастала, таксама як і роля навукі ў цэлым.

За савецкі час беларуская навука значна ўмацавала сваю матэрыяльна-тэхнічную базу, пашырыла сетку навуковых устаноў, інтэнсіўна вялася падрыхтоўка навуковых кадраў. Усё гэта дазволіла ёй, нягледзячы на значныя людскія страты ў гады сталінскіх рэпрэсій і ваеннага ліхалецця, уносіць сур'ёзны ўклад у развіццё фундаментальных і прыкладных даследаванняў, аказваць плённы ўплыў на развіццё эканомікі і культуры рэспублікі.

За апошнія дзесяцігоддзі на Беларусі была створана разгалінаваная сетка ўстаноў навукі і навуковага абслугоўвання. На пачатак мінулага года сярод самастойных навукова-тэхнічных арганізацый у нас налічвалася 137 навукова-даследчых, 57 канструктарскіх і 23 праектныя і праектна-канструктарскія арганізацыі, 38 вышэйшых навучальных устаноў. У структуры гэтага навукова-тэхнічнага патэнцыялу вядучае месца займаюць кадры Дзяржкамітэта па прамысловасці (амаль 40 працэнтаў) і Акадэміі навук Беларусі (20 працэнтаў).

На Беларусі склаліся навуковыя школы ў многіх галінах ведаў, добра вядомыя ва ўсім свеце.

Усяго за апошнія дзесяцігоддзі развіцця навукі ў межах былога СССР беларускім вучоным належыць каля 60 вышэйшых навукова-тэхнічных дасягненняў, адзначаных дыпломамі на адкрыцці, Ленінскімі і Дзяржаўнымі прэміямі СССР і БССР, імяннымі прэміямі і медалямі акадэмій навук.

У гісторыі беларускай навукі ўзаемаадносіны дзяржавы і навукі змяняліся вельмі істотна ў залежнасці ад этапнасці развіцця самой навукі і эканомікі рэспублікі. У перыяд халоднай вайны дзяржаўнае кіраванне навукай зыходзіла перш за ўсё з мэт ідэалогіі і ваенна-прамысловага комплексу. У гады перабудовы навуцы былі дадзены пэўныя правы і свабоды, але яна засталася па-ранейшаму незапатрабаванай з боку цывільнага сектара эканомікі. Пасля распаду СССР, на жаль, гэта незапатрабаванасць засталася і нават павялічваецца. Да яе дабавіліся праблемы канверсіі і дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту, абыякавасць грамадства да сваёй інтэлектуальнай спадчыны. У сістэме нацыянальна-дзяржаўных прыярытэтаў айчынная навука заняла трэцеразраднае месца.

Індыкатарам падзення сацыяльнага прэстыжу навукі стала дынаміка выдаткаў на навуку. Навукаёмістасць нацыянальнага даходу толькі за тры гады знізілася больш чым у тры разы (з 3,9 працэнта ў 1990 годзе да 1,1 працэнта ў 1992 годзе). У выніку скарачэння попыту на даследаванні і распрацоўкі аб'ём навукова-тэхнічных работ за 1990—1992 г. скараціўся на 40 працэнтаў. Выдзяляемых асігнаванняў хапае толькі ў асноўным на заработную плату і ўтрыманне памяшканняў. Эканамічная сітуацыя прымушае арыентавацца на кароткатэрміновыя праекты, якія выкарыстоўваюць ужо апрабаваныя ідэі, у выніку чаго адбываецца вычэрпванне навуковага задзелу.

Ва ўмовах сацыяльна-эканамічнага крызісу і канверсіі навукова-тэхнічныя кадры трапілі ў лік самых сацыяльна неабароненых прафесійных груп у рэспубліцы, што прывяло да рэзкага скарачэння колькасці работнікаў, занятых асноўнай навукова-тэхнічнай дзейнасцю: з 107 тысяч чалавек у 1990 годзе да 58 у 1992 годзе. Асабліва пацярпела галіновая і акадэмічная навука. У рэспубліцы хутка расце армія беспрацоўных вучоных. Па даных Мінскай гарадской службы занятасці, сярод зарэгістраваных за дзевяць месяцаў 1993 года беспрацоўных, прадстаўнікі галіны «навука і навуковае абслугоўванне» склалі каля чвэрці ад агульнай колькасці.

Як правіла, вышэйшую школу і навуковыя ўстановы пакідаюць высокакваліфікаваныя і ініцыятыўныя вучоныя маладога і сярэдняга ўзросту. Спыненне прытоку моладзі абвастрыла праблему старэння навуковых кадраў. Захаванне склаўшыхся тэндэнцый у бліжэйшыя гады можа разбурыць механізм узнаўлення кадраў, прывесці да знікнення цэлых навуковых школ.

Як варыянт выхаду з цяжкага становішча, у многіх навуковых работнікаў з'яўляецца жаданне паехаць за мяжу: 5 працэнтаў апытаных беларускіх вучоных хацелі б выехаць туды на пастаяннае месца жыхарства, а 62 працэнты — часова па кантракту. «Утечка умов» за мяжу небяспечная не сваім маштабам, які наўрад ці будзе значным, а тым, што ён закранае звычайна лепшых з лепшых. Без іх многія навуковыя калектывы аказваюцца абезгалоўленымі.

Навуковы патэнцыял у значнай меры вызначаецца таксама тэхнічнай аснашчанасцю даследаванняў. У апошнія гады адсутнасць фінансавых сродкаў негатыўна адбілася на развіцці матэрыяльна-тэхнічнай базы навукі.

Трэба прызнаць, што за апошняе дзесяцігоддзе дасягнуты пэўныя поспехі ў камп'ютэрызацыі навуковага працэсу. Аднак у цэлым па матэрыяльна-тэхнічнай базе навукі становішча рэзка пагоршылася. Так, у АН Беларусі ў шэрагу інстытутаў за 1992—1993 г. не атрымана ніводнага прыбора.

Вельмі цяжкай праблемай стаў інфармацыйны вакуум, у якім апынулася беларуская навука. З 1992 г. у сувязі з адсутнасцю свабодна канверсоўнай валюты закупкі навуковых кніг і часопісаў скараціліся ў дзесяткі разоў. Адначасова знізілася паступленне навуковай літаратуры з цэнтральных выдавецтваў Расіі. Рост цэн на транспартныя і гасцінічныя паслугі моцна абцяжарвае правядзенне навуковых канферэнцый. Усё гэта перашкаджае кантактам беларускіх вучоных з калегамі з іншых краін.

Сёння галоўным сродкам, што забяспечвае канкурэнтаздольнасць любой краіны на сусветным рынку, з'яўляюцца высокія тэхналогіі.

Таму нацыянальнае адраджэнне Беларусі неаддзельна ад яе тэхналагічнага адраджэння. Сусветны рынак прымушае нас развіваць навукаёмістыя вытворчасці, займацца распрацоўкай тэхналогій. У нас пакуль яшчэ ёсць для гэтага магутны інтэлектуальны патэнцыял, сучасныя галіны прамысловасці, традыцыі культуры і адукацыі. Неабходна толькі па-гаспадарску імі распарадзіцца. Палітычны суверэнітэт павінен абапірацца на навукова-тэхнічную самастойнасць, а не на думкі заезджых экспертаў.

Аднак далёка не ўсе лічаць фінансаванне сваёй нацыянальнай навукі задачай першараднай важнасці. Гэта паказалі вынікі сацыялагічнага даследавання, у ходзе якога былі апытаны кіраўнікі вытворчасцей і прадпрымальнікі Беларусі. Пераважная большасць апытаных лічыць, што развіццё нацыянальнай навукі можа пачакаць, паколькі ўжо гатовых распрацовак хопіць надоўга. Чыста па-чалавечы іх можна зразумець: у людзей сёння столькі клопатаў з хлебам, нафтай, тымі ж камплектуючымі, што падумаць аб перспектыве няма часу. Але сённяшні дзень пройдзе і надыдзе заўтрашні. Тады адставанне навукі адкіне назад яшчэ больш нашу і без таго шматпакутную эканоміку.

Каб спыніць працэс распаду навукі, патрэбен прынцыпова іншы падыход, заснаваны на канкрэтным пераўтварэнні навукова-тэхнічнага патэнцыялу і стварэнні на гэтай аснове высокаэфектыўнай эканомікі. Рэспубліка павінна мець навукова-тэхнічны патэнцыял, які адпавядае ўзроўню і якасці сярэднеразвітых еўрапейскіх краін. Дзяржаве неабходна праводзіць палітыку прамой і ўскоснай падтрымкі навукі і ствараць найбольш спрыяльныя ўмовы для эфектыўнай работы навуковых кадраў і выкарыстання вынікаў навукі на практыцы.

Важнае пытанне — месца фундаментальнай навукі ў новай структуры нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў Беларусі. Мы займаем тут акрэсленую пазіцыю: фундаментальныя даследаванні служаць асновай усіх відаў навуковай дзейнасці, першакрыніцай тэхналагічных новаўвядзенняў і адукацыі. Нацыянальная навука становіцца часткай сусветнай навуковай супольнасці перш за ўсё праз падтрыманне сучаснага ўзроўню фундаментальнай навукі. Гісторыя развіцця навуковага патэнцыялу на Беларусі, рэальныя ўмовы яго існавання прывялі да пераважнага засяроджвання фундаментальнай навукі ў сістэме Акадэміі навук рэспублікі.

У Законе РБ «Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі» замацаваны статус Акадэміі навук як самакіравальнай навуковай арганізацыі, сродкі на дзейнасць якой штогод выдзяляюцца з бюджэту. Нягледзячы на гэта, у рэспубліцы працягваюцца спробы паставіць пад сумненне неабходнасць захавання Акадэміі навук Беларусі як ведамства з сеткай навуковых устаноў.

# НОВАЯ ГІСТОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ. ЯКОЙ ЯНА БУДЗЕ?

У Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі вядзецца вялікая праца па напісанню новай гісторыі беларускай літаратуры. Яе стварэнне выклікана пераацэнкай многіх каштоўнасных арыенціраў. «І ў такіх умовах, — гаворыць дырэктар інстытута В. А. Каваленка, — гісторыя нацыянальнай пісьмовай культуры і літаратуры не можа заставацца ў абсягу мала змененых ці ледзь-ледзь падноўленых ацэначных вызначэнняў...»

Цяпер створаны спрыяльныя ўмовы для перагляду шматлікіх штучных ідэалагічных схем і канонаў, якія сілком прыўносіліся ў сферу навуковай дзейнасці. Таму патрэбна рашучае паглыбленне і абнаўленне філасофскіх асноў разумення ўсёй духоўнай гісторыі беларускай нацыі. Вельмі доўга, напрыклад, прывівалася перакананне, што ў ідэйна-творчым мысленні беларускіх пісьменнікаў пераважала сацыяльная трывога за народ. Несумненна, сацыяльныя матывы ў беларускай літаратуры надзвычай моцныя. Аднак зараз, як ніколі раней, выразна відаць, што яны цесна спалучаны з ідэяй нацыянальнага вызвалення і ўнутрана падпарадкаваны ёй.

У той жа час некаторыя занепакоены тым, ці не будзе новая гісторыя кан'юнктурным перапісваннем ацэначных устаноўленняў паводле чарговай змены палітычнага курсу. Вось меркаванне на гэты конт дырэктара інстытута:

— Некаторага ідэалагічнага перабору ў бок нацыянальнага ўхілу ў сучасных умовах пазбегнуць, напэўна, не ўдасца. Калі быць рэалістам, то нельга не прызнаць, што працяглае, сямідзесяцігадовае культыванне нейкай аднабаковасці не можа не выклікаць на пэўны час — да ўсведамлення гістарычнай раўнавагі — другой аднабаковасці. І гэта правамерна. У такім выпадку пачынае дзейнічаць закон пазнання паўнаты цэлага. Калі раней нацыянальная праблематыка ў гісторыі беларускай літаратуры глыбока не даследавалася і замоўчвалася, то непазбежна ў свабодных умовах даследавання яна стане прыярытэтнай...

У напісанні гісторыі ёсць і свая спецыфіка. Яна зводзіцца да таго, што характар даследавання дыктуецца не гэтак адносінамі аўтара да літаратурнага матэрыялу, колькі праблемным зместам самога матэрыялу. Зместу гісторыі супрацьпаказана празмерная эсэістычнасць, бо ў ёй вялікае значэнне набывае адукацыйная мэта, даведачнасць, у нейкай меры — нават энцыклапедычнасць. Аўтарства артыкула для «Гісторыі...» у пэўнай ступені адноснае. Усё гэта можна назваць патрабаваннямі «акадэмічнага стылю».

Не магла пачацца праца над гісторыяй літаратуры без пэўных філасофскіх і канцэптуальных падыходаў, якія не распрацоўваліся «кімсьці» і «недзе», а былі ўскладнены на калектыўную думку ўсяго творчага калектыву. Таксама для выпрацоўкі светапогляднай пазіцыі, якая б магла легчы ў аснову стварэння новай «Гісторыі...». Інстытутам літаратуры восенню 1992 г. была праведзена рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Прынцыпы напісання новай гісторыі нацыянальнай літаратуры», у якой, акрамя выкладчыкаў вну Беларусі, актыўны творчы ўдзел прыняла група вучоных, навуковых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Шаўчэнкі АН Украіны.

Трэба зазначыць, што пішацца новая акадэмічная гісторыя літаратуры не са старажытных вытокаў, а з пачатку цяперашняга стагоддзя. Спачатку выйдзе «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя» у чатырох тамах. Такі выбар тлумачыцца тым, што менавіта гісторыя літаратуры нашага стагоддзя ў сваім папярэднім асэнсаванні атрымала найбольшую дозу вульгарна-ідэалагічнай ін'екцыі. Тут найбольш замоўчванняў, пропускаў, скажоных ацэнак, кан'юнктурных ілжэтэорый. Таму якраз гэтай гісторыі літаратуры неабходна ў першую чаргу вярнуць па мажлівасці яе сапраўднае факталагічнае аблічча.

Алесь БІЦАРУК.

# «Ізумруд» ці крэмень?

**Вядома, што якасць пітной вады ў рэспубліцы далёкая** ад рэкамендаваных санітарна-гігіенічных параметраў. Не вельмі даўно органы Белстандарту праверылі чатыры дзесяткі станцый водазабеспячэння. На 32(!) выяўлены сур'ёзныя парушэнні дзяржаўнага стандарту на пітную ваду.

Не дзіўна, што праблема эфектыўнай ачысткі пітной вады даўно стала прадметам пошуку навукоўцаў і вынаходнікаў. Прыдумваюцца арыгінальныя насадкі-фільтры на водаправодныя краны, іншыя ачышчальныя прылады. На жаль, іх не часта сустрэнеш у магазінах. А калі яны і бываюць, то людзі не спяшаюцца купляць іх з-за недасканаласці. Сведчу гэта і па асабістаму вопыту.

Многія ж аддаюць перавагу крэмню. Вера ў яго эфектыўнасць, падмацаваная публікацыямі ў прэсе, ды і прастата выкарыстання гэтага каменьчыка зрабілі яго вельмі папулярным у якасці сродка ачысткі вады. Без складаных маніпуляцый, якіх патрабуюць іншы раз тэхнічныя прыстасаванні, вада, актываваная крэмнем, ператвараецца ледзь не ў крынічную. І гэта не толькі самаўнушэнне. Пэўны эфект, відавочна, у наяўнасці. Дрэнна толькі тое, што кантакт крэмня з вадою павінен быць вельмі працяглым, а, па-другое, ад усіх прымесей пазбавіцца цяжка.

Але вось нядаўна даведаўся я, што сумеснае расійска-брытанскае прадпрыемства «Эмеральд» робіць бытавыя апараты-электрызеры «Ізумруд» для ачысткі водаправоднай вады. У Расіі яны раскупляюцца ў адзін момант, нягледзячы на немалы кошт.

Апарат купіць мне не давялося. Затое рэкламу прачытаў.

Як вынаходнік, хачу засведчыць: канструкцыя «Ізумруда» вельмі арыгінальная. Ён запатэнтаваны ў Вялікабрытаніі і Расіі. Мікраарганізмы, як і шкодныя арганічныя прымесі, у ім акісляюцца, знішчаюцца. Іоны цяжкіх металаў таксама зазнаюць змены, ператвараючыся ў біялагічна неактыўныя формы.

Так што, калі каго-небудзь зацікавіла маё кароткае паведамленне і яму патрэбны дадатковыя падрабязнасці, то можна пазваніць Міхаілу Падаляку — кандыдату навук, распрацоўшчыку новай медыцынскай тэхнікі па тэлефоне 32-85-37. Ён і яго калегі адкажуць на ўсе тэхнічныя і медыцынскія пытанні адносна «Ізумруда».

Што датычыць вопыту прымянення апарата, то прашу звязацца са мной па тэлефоне 39-45-63.

А. ПРЫШЧЭПАЎ,
навуковы супрацоўнік АНБ.

# па пераўтварэнню навуковага патэнцыялу»

Гавораць аб неабходнасці правядзення рэформы АНБ, зыходзячы з быццам бы адзінай заходняй мадэлі арганізацыі універсітэцкай навукі. Але на самой справе арганізацыя фундаментальнай навукі ў прамыслова развітых краінах з'яўляецца дастаткова разнастайнай, уключаючы не толькі так званыя персанальныя акадэміі, але і ведамствы з сістэмай навукова-даследчых устаноў. Да таго ж нам карысна ўлічыць вопыт краін, дзе ў ходзе рэформ прымянілі да акадэмічнай навукі хірургічныя аперацыі па яе расчляненню. Ліквідацыя акадэмій навук як сістэмы даследчых інстытутаў, напрыклад, у былой ГДР і ў краінах Балтыі, хутка паказала, што адмоўныя паследкі такога разбурэння пераважаюць над канструктыўным зместам рэформ.

Рэарганізацыя акадэмічнай навукі на Беларусі, безумоўна, неабходна, але яна не павінна быць разбуральнай. Мы лічым, што метадычная і ўмераная перабудова Акадэміі навук Беларусі дасць больш карысці, чым паспешны рэвалюцыйны пераварот. Пры гэтым структурныя змены ў сістэме АНБ павінны ажыццяўляцца праз перагляд навуковых напрамкаў і тэматыкі, іх максімальную арыентацыю на нацыянальныя і народнагаспадарчыя прыярытэты, найцяснейшую сувязь з вышэйшай адукацыяй.

Фарміраванне рыначнай эканомікі навукова-тэхнічнага тыпу цесна звязана з **праблемай прымянення метадаў дзяржаўнага рэгулявання** развіцця навуковай дзейнасці. Вопыт развітых краін паказвае, што ўдзел дзяржавы ў арганізацыі навукі ўзмацняецца па меры росту навукова-тэхнічнага патэнцыялу краіны і павелічэння яго ўкладу ў развіццё грамадства. Так, у кангрэсе ЗША абмеркаванне праблем фарміравання і рэалізацыі нацыянальнай навукова-тэхнічнай палітыкі ў апошнія гады займала каля 10 працэнтаў часу, адведзенага на слуханне ўсіх разглядаемых пытанняў. Пакет заканадаўчых актаў, што рэгламентуюць навукова-тэхнічную дзейнасць у развітых краінах, істотна больш поўны, чым у краінах з нізкім узроўнем навукова-тэхнічнага развіцця. Такі пакет асноўных законаў складае ў сярэднім 10—20 дакументаў. Акрамя таго, адбываецца паскоранае абнаўленне законаў аб навукова-тэхнічнай дзейнасці — у сярэднім кожныя два-тры гады. У многіх краінах створана разгалінаваная сетка органаў кіравання навукай і тэхналогіямі, у тым ліку на дзяржаўным узроўні.

На Беларусі праведзена пэўная работа па дзяржаўнаму рэфармаванню навукова-тэхнічнай сферы. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў у 1993 годзе законы «Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі», «Аб патэнтах на вынаходствы», «Аб патэнтах на прамысловыя ўзоры», «Аб таварных знаках і знаках абслугоўвання». Створаны Дзяржаўнае патэнтнае ведамства, Вышэйшая атэстацыйная камісія. Зусім нядаўна прынята рашэнне аб стварэнні Камітэта па навуцы і тэхналогіях пры Савеце Міністраў РБ.

Для стымулявання развіцця навукі ў галінах прамысловасці дадзены дазвол фарміраваць ведамасныя фонды фінансавання даследаванняў і распрацовак за кошт адлічэнняў ад сабекошту прадукцыі, работ і паслуг прадпрыемстваў у памеры да 1 працэнта ад таварнай прадукцыі.

Пэўныя меры прымаюцца і для паляпшэння аплаты працы работнікаў навукі і адукацыі.

Для актывізацыі навуковай працы студэнтаў, паглыблення іх тэарэтычнай і практычнай падрыхтоўкі Акадэмія навук Беларусі заснавала пяць грашовых прэмій за лепшыя даследаванні студэнтаў у галіне гуманітарных, прыродазнаўчых і тэхнічных навук. Фонд фундаментальных даследаванняў аб'явіў спецыяльны конкурс для маладых вучоных.

У цэлым трэба яшчэ раз падкрэсліць, што ва ўмовах зараджэння рынку навука павінна мець падтрымку перш за ўсё ад дзяржаўных структур. Навуковы патэнцыял трэба аптымізаваць у межах суверэннай дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі.

Але пакуль што мы назіраем адваротную тэндэнцыю. Аб'ём фінансавання навукова-тэхнічнай дзейнасці ў бюджэце рэспублікі скараціўся за апошнія гады амаль у тры разы. У 1994 годзе ён запланаваны менш за 1 працэнт ад расходнай часткі бюджэту.

Цесная ўзаемасувязь навукі і дзяржавы асабліва яскрава выяўляецца ў праблемах структурнай перабудовы і канверсіі.

У выніку распаду савецкай краіны Беларусь атрымала ў спадчыну навукова-тэхнічны комплекс, які далёка не адпавядае патрэбам і структуры народнай гаспадаркі рэспублікі. З аднаго боку, ёсць шэраг НДІ і КБ былога саюзнага падпарадкавання, арыентаваных на патрэбы іншых дзяржаў, пераважна Расіі. З другога боку, навідавоку востры недахоп навуковых напрацовак па цэламу шэрагу напрамкаў, звязаных непасрэдна з інтарэсамі чалавека, яго матэрыяльнымі і духоўнымі запатрабаваннямі.

У гэтых прынцыпова новых умовах нярэдка чуюцца галасы, якія заклікаюць закрыць навуковыя напрамкі, непасрэдна не звязаныя з патрэбамі эканомікі Беларусі. У такім падыходзе ёсць, безумоўна, рацыянальнае зерне, аднак ён супярэчыць рыначнай ідэалогіі, якая патрабуе даць дарогу тым, хто можа паспяхова гандляваць сваёй навукова-тэхнічнай прадукцыяй.

Пасля рассакрэчвання статыстычных даных мы даведаліся, што даследаваннямі абароннага характару ў нас было занята каля 70 працэнтаў навуковага патэнцыялу. Канверсія навукі з'яўляецца важнейшай задачай на бліжэйшыя гады. У абаронна-прамысловым комплексе ўдзельная вага ваенных заказаў знізілася з 59 працэнтаў у 1989 г. да 18 працэнтаў у 1992 г. У нашых агульных інтарэсах, каб магутны тэхналагічны і навуковы патэнцыял абаронных галін прамысловасці выкарыстоўваўся для мэт стварэння, паляпшэння жыцця народа, павышэння культуры і маштабаў цывільных галін вытворчасці. Гэта найцяжэйшая задача пакуль што не пад сілу ўзнікаючым рыначным структурам і можа быць вырашана толькі пры вядучай ролі дзяржавы. Безумоўна, тое-сёе на Беларусі ўжо зроблена. Праведзена інвентарызацыя ўсіх навукова-даследчых работ, што раней вяліся па лініі Міністэрства абароны СССР.

Вызначаны прыярытэты лініі Міністэрства абароны СССР. Вызначаны прыярытэты даследаванняў на бліжэйшую будучыню, сярод якіх — мікраэлектроніка, інфарматыка, сродкі і сістэмы сувязі, оптаэлектроніка. Па гэтых напрамках беларускім вучоным і распрацоўшчыкам ёсць што сказаць. Але, на жаль, на Беларусі да цяперашняга часу няма стройнай канцэпцыі канверсіі. Відавочна, што былую абаронную навуку нельга з размаху кідаць у рынак. Нельга дапусціць стыхійнае развіццё падзей, у выніку якіх проста будзе разбурана тое, што ёсць.

Пераглядзеўшы асноўныя мэты і структуру народнай гаспадаркі Беларусі, трэба вызначыць новыя дзяржаўныя навукова-тэхнічныя прыярытэты. Справа гэта складаная і нават небяспечная, заўсёды ёсць верагоднасць разам з вадой выплюхнуць і дзіця, залічыўшы ў лік непрыярытэтных якія-небудзь важныя напрамкі. Відавочна, што прыярытэты рэспубліканскай навукова-тэхнічнай палітыкі не могуць быць толькі простай копіяй прыярытэтаў сусветнай ці расійскай навукі. Іх трэба вызначыць у межах новых нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь ва ўмовах галоснасці, пры ўзаемадзеянні трох асноўных экспертаў — прадстаўнікоў навукі, вытворчасці і органаў кіравання.

Пры выбары прыярытэтаў і абгрунтаванні сістэмы праграм перавага павінна аддавацца вырашэнню задач, звязаных з больш поўным і эфектыўным задавальненнем патрэб чалавека ў экалагічна чыстых прадуктах харчавання, сучасных прамтаварах і паслугах, сродках медыцыны, паляпшэннем асяроддзя пражывання, фарміраваннем канкурэнтаздольнага экспартнага патэнцыялу, аснашчэннем высокатэхналагічных галін эканомікі, забеспячэннем прыярытэтных задач тэхналагічнымі сродкамі, матэрыяламі, тэхналогіямі.

Вялікую дапамогу нам можа аказаць міжнароднае навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва. За апошнія гады ўжо многае зроблена для фарміравання новай сеткі міжнародных навуковых сувязей. Беларусь паступова набывае статус паўнапраўнага ўдзельніка ў міжнародных спецыялізаваных арганізацыях, што дзейнічаюць у сферы навукі і тэхнікі. Такое супрацоўніцтва ва ўмовах міжнароднага падзелу працы дазваляе больш эфектыўна выкарыстоўваць інтэлектуальны патэнцыял нашай дзяржавы, узаемавыгадна праводзіць абмен навукова-тэхнічнай інфармацыяй і стрымліваць уцечку мазгоў.

Вялікія спадзяванні мы звязваем таксама з дагаворам аб стварэнні Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук. Гэта недзяржаўная самакіравальная арганізацыя, у якую ўвайшлі пятнаццаць акадэмій, у тым ліку і АНБ, мае сваімі мэтамі аб'яднанне намаганняў вучоных суверэнных дзяржаў у вырашэнні найбольш агульных навуковых праблем развіцця цывілізацыі, умацаванне навуковай палітыкі акадэмій навук, падтрымку найбольш перспектыўных даследаванняў.

Нам трэба захаваць усё лепшае, што было ў сістэме агульнай і вышэйшай адукацыі, умацаваць сувязі навукі і адукацыі. Магістральны шлях развіцця інтэлектуальнага патэнцыялу незалежнай Беларусі непарыўна звязаны з інтэграцыяй вышэйшай школы і навукі, калі гэтыя сферы сваімі вынікамі ўзаемна ўмацоўваюць адна адну, дапамагаючы пераадольваць цяжкасці пераходнага перыяду.

Але, нягледзячы на вялікія цяжкасці, у рэспубліцы ідзе сур'ёзная работа па пераўтварэнню навуковага патэнцыялу, выпрацоўваецца агульнадзяржаўная канцэпцыя развіцця навукі. Будзем верыць, што нам удасца захаваць і падтрымаць важнейшыя напрамкі, якія могуць забяспечыць далейшы прагрэс народнай гаспадаркі і станаўленне дзяржаўнай незалежнасці Беларусі.

Гістарычна склалася так, што першы Дзень беларускай навукі мы адзначаем у вельмі цяжкі для яе час. Але мы спадзяемся, што агульнай працай беларускі народ даб'ецца лепшай будучыні для сваёй суверэннай рэспублікі. Вучоныя ж, са свайго боку, зробяць усё магчымае, каб пераадолець існуючы крызіс і ўнесці дастойны ўклад у развіццё і росквіт роднай Беларусі.

# Рэспубліканская грамадская арганізацыя Фонд Сораса-Беларусь аб'яўляе конкурс на праекты і даследаванні ў галіне гуманітарных навук

## Агульныя ўказанні аб парадку і працэдуры падачы заяўкі на саісканне даследчых грантаў па гуманітарных навуках Фонду Сораса — Беларусь

Гэтая праграма конкурсных грантаў адкрыта для вучоных, што працуюць на тэрыторыі Беларусі, і прадугледжвае праекты, разлічаныя на тэрмін да двух гадоў з фінансаваннем да 30 тысяч доляраў для індывідуальных вучоных і малых груп па прыярытэтных напрамках. (Перавага будзе аддавацца праектам у межах 10.000 доляраў).

Заяўка на грант уключае наступныя дакументы:

I. Заяўка на ўдзел.
II. Апісанне праекта.
III. Праект бюджэту.
IV. Інфармацыя аб саіскальніку.
V. Дзве пісьмовыя рэкамендацыі.
VI. Канверт і дзве паштоўкі са зваротным адрасам.

Усе неабходныя дакументы друкуюцца на машынцы ці на камп'ютэры. Усе дакументы падаюцца ў трох экземплярах: дзве копіі на беларускай ці рускай мове і адна копія на англійскай мове. Усе графы павінны быць запоўнены. Саіскальнік нясе адказнасць за праўдзівасць і дакладнасць інфармацыі, указанай у заяўцы. Любая навуковая публікацыя, выкананая па гранту, павінна ўключаць падзяку Фонду Сораса—Беларусь. Пасля выканання праекта складаецца планавая справаздача, якая ўключае кароткае апісанне атрыманых вынікаў.

*I. Форма заяўкі*

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку.
2. Дата нараджэння.
3. Месца нараджэння.
4. Грамадзянства.
5. Пашпартныя даныя.
6. Месца работы.
7. Пасада.
8. Рабочы адрас, тэлефон/факс.
9. Дамашні адрас, тэлефон.
10. Вучоная ступень: год абароны, вучонае званне, год прысуджэння.
11. Прыярытэтны напрамак у галіне гуманітарных навук.
12. Назва даследчага праекта (не больш 30 слоў)
13. Запытваемы аб'ём фінансавання (укажыце ў доларах ЗША)

першы год .............
другі год ..........
агульная сума ............

14. Патрэбная працягласць праекта.
15. Іншыя ўдзельнікі даследчага праекта (калі неабходна, выкарыстайце дадатковыя старонкі).

а. Прозвішча, імя, імя па бацьку. б. Дата нараджэння. в. Месца работы. г. Пасада. д. Пашпартныя даныя. е. Дата і месца выдачы. ж. Вучоная ступень. з. Год абароны. і. Вучонае званне, калі прысуджана.

16. Рэзюме. Сутнасць прапануемага даследавання, перспектыўныя і непасрэдныя навуковыя мэты: кароткі план работ. Пазбягайце апісання мінулых вынікаў. Рэзюме ўяўляе сабой незалежнае апісанне прапануемага праекта.
17. Подпіс навуковага кіраўніка праекта. Гэтым пацвярджаю, што прадстаўленая ў заяўцы інфармацыя дакладная, і я гатовы захоўваць усе пункты гэтай праграмы.

Падпісаны арыгінал гэтай формы павінен быць прадстаўлены ў Фонд Сораса—Беларусь.

Подпіс. Дата.

*II. Апісанне праекта*
(не больш 7 старонак).

Апісанне праекта ўключае наступныя раздзелы:

а. Перспектыўныя і непасрэдныя навуковыя мэты, гіпотэзы, на якіх грунтуецца праект.

б. Ацэнка становішча ў гэтай галіне ведаў, якія праблемы будуць вырашаны, якія існуючыя прабелы ў ведах будуць запоўнены.

в. Ацэнка ўзроўню і існуючай асновы, закладзенай удзельнікамі праекта ў гэтай галіне.

г. Апісанне шляхоў дасягнення пастаўленых мэт, метадаў і абсталявання, неабходных для гэтага, апісанне магчымых альтэрнатыўных да прапануемых у праекце падыходаў.

д. Графік выканання работ па этапах.

*III. Праект бюджэту*

Прозвішча кіраўніка праекта

1. Зарплата і ганарары.

А. кіраўнік праекта (сума ў месяц) (колькасць месяцаў)
агульная сума
выдзеленая сума

В. Іншыя ўдзельнікі праекта.
1.
2.
3.
4.
...

2. Абсталяванне і матэрыялы (пералічыць).
Запытваемая сума
Выдзеленая сума
Усяго на абсталяванне:

3. Міжнародныя камандзіроўкі
...
Усяго на міжнародныя камандзіроўкі:
...

4. Сувязь, капіраванне, рэдакцыйна-выдавецкая дзейнасць.
Усяго:

5. Іншыя расходы (укажыце)
Усяго:

6. Поўныя расходы (1+2+3+ +4+5)
Усяго:

Калі рэалізацыя праекта ўключае пастаўку абсталявання з удзелам Фонду Сораса—Беларусь, напрыклад, доследную апаратуру, аудыя- і відэаабсталяванне, камп'ютэры, фотакапіравальную тэхніку і іншае абсталяванне, дык неабходна ўказаць: месца размяшчэння такога абсталявання і асобу, якая адказвае за яго, наяўнасць кваліфікаванага персаналу для яго эксплуатацыі, даступнасць такога абсталявання для іншых арганізацый, інстытутаў, лабараторый. Набытае абсталяванне застаецца ўласнасцю Фонду Сораса—Беларусь.

7. Указаць іншыя крыніцы і аб'ёмы фінансавання (бюджэт, іншыя праекты, у тым ліку мяркуемыя праекты), кіраўніка і іншых удзельнікаў праекта, мяркуемы даход.

*IV. Інфармацыя аб саіскальніках*

1. Кароткія аўтабіяграфіі (з указаннем адукацыі, прафесійнага вопыту, ведання замежных моў).

2. Спіс публікацый (рыхтуецца ў адпаведнасці з агульнапрынятымі стандартамі): не менш пяці публікацый за апошнія пяць гадоў для кіраўніка і трох — для астатніх удзельнікаў праекта ў вядучых навуковых часопісах і працах міжнародных канферэнцый.

*V. Дзве пісьмовыя рэкамендацыі*

Рэкамендацыі даюцца ў пісьмовым выглядзе кампетэнтнымі спецыялістамі, якія не з'яўляюцца сааўтарамі заявы, адзін з іх не з Беларусі, якія ведаюць пра вопыт работы і магчымасці саіскальніка (перавага будзе аддавацца водгукам замежных спецыялістаў). Рэкамендацыі павінны ўключаць ацэнку праекта і пацвярджэнне здольнасці саіскальніка рэалізаваць праект.

*Падача заяўкі*

Усе заяўкі на гранты разглядаюцца на конкурснай аснове. Тэрміны падачы заявак з'яўляюцца фіксаванымі, і праекты разглядаюцца адзін раз у год. Тэрмін падачы заявак на маючы адбыцца конкурс — да 1 сакавіка 1994 года. Заяўкі, пададзеныя пасля гэтага тэрміну, не разглядаюцца. Няпоўныя заяўкі не будуць улічвацца. Мы рэкамендуем усім саіскальнікам зрабіць копіі прысланых дакументаў для сябе. Пададзеныя па заяўцы матэрыялы і дакументы не вяртаюцца саіскальнікам.

Заяўкі неабходна накіроўваць па аўторках і чацвяргах з 15.00 да 17.00 па наступнаму адрасу: 220027, Мінск-27, пр. Ф. Скарыны, 65, корпус 11А, 5-ы паверх, «Фонд Сораса—Беларусь», тэл./факс: (0172) 32-80-92, 39-93-46.

СВЕТ НАШЫХ ЗАХАПЛЕННЯЎ

# ЯКАЯ ЖАНЧЫНА НЕ ПІША ПРА КАХАННЕ?



Людміла Клімковіч, супрацоўніца Інстытута філасофіі і права, пачала пісаць вершы каля двух гадоў таму. Піша яна на розныя тэмы, але найбольш часта яе вершы прысвечаны вечнай тэме — каханню, адносінам жанчыны і мужчыны. Нізку такіх вершаў рэдакцыя «Навін» прапануе сваім чытачам.

### РЕВНОСТЬ

Скажи, она мила, избранница твоя?
Ты делишь с ней и стол, и ложе.
На ангела она иль на змею похожа?
В догадках все терзаюсь я.

Ты не со мной, а с ней,
И это больно ранит,
И это душу ревностью полнит.
Душа моя, я знаю, не обманет,
Душа моя, я знаю, всё простит.

Приходишь ты и смотришь на меня,
Меня не видя, в думы погружен.
За что, скажи, меня ты ненавидишь?
Зачем тревожишь мой покой и сон?

Поверь, люблю тебя я больше жизни!
В моих мечтах и грезах — только ты!
Ну не смотри так строго, с укоризной,
Ну не развеивай мои мечты!

### Я И ТЫ

Любовь к тебе дает мне силы,
Любовь к тебе дает покой.
Я знаю, до моей могилы
Ты для меня совсем такой.

Какой сейчас: большой и сильный
И добрый. Долгу верен ты,
Но загляни в мои мечты!
В них ты найдешь посев обильный
Любви, добра и теплоты!

Прислушайся к моим мольбам:
Ведь ты мне нужен, несомненно.
Хочу прильнуть к твоим устам,
Хочу сказать слова нетленны:

Любовь — вершина бытия,
Не отвергай ее ты красоты!
Смысл мирозданья — ты и я,
Смысл сотворенья — я и ты!

### Я ТАК УСТАЛА БЕЗ ТЕБЯ СТРАДАТЬ!

Тебя здесь нет — и мне так одиноко,
Мне не хватает твоих глаз и губ.
Но ты с другой — ты так далеко,
Как будто между нами тысяча разлук!

Тебя хочу я видеть, обнимать,
В твои глаза глядеть — в них нежность, страсть!
Твои черты хочу я целовать:
Я так устала без тебя страдать!

### ЗАЧЕМ ПРИШЛА?

*Пришла, чтобы видеть Вас.*
*Чтобы прочесть в глазах*
*Слова любви, слова признанья*
*И нежный лепет обожанья.*

*Чтобы потом, в потоке дел*
*Ваш образ был и свеж и смел,*
*Чтоб душу он мою целил,*
*Ведь он мне очень-очень мил!*

## ВАКАНСИИ

Отделение биологических наук Академии наук Беларуси объявляет конкурс на замещение должностей директора Института генетики и цитологии, директора Института микробиологии, директора Института физиологии, директора Института экспериментальной ботаники.

Право выдвижения кандидатов на указанные должности имеют: бюро отделения, ученый совет и научные структурные подразделения институтов, члены Академии наук Беларуси.

Предложения о выдвижении кандидатов на объявленные должности направлять до 10 марта 1994 года по адресу: 220072, Минск, пр. Ф. Скорины, 66, Отделение биологических наук АНБ.

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»
Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 311, 313. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 9.02.94 г.
Зак. 1016.
Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123
Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантую адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.